# „АЙЦЫ" Б.С.С.Р. І ІХНЫ ЛЁС

А. КАЛУБОВІЧ

1.1.1979 г. у БССР будуць адзначаць 60-цігодзьдзе БССР. У сувязі з гэтым мы прапануем увазе нашых паважаных чытачоў нарыс А. Калубовіча „Айцы" БССР і іхны лёс". Нарыс, які мы пачынаем друкаваць ад гэтага № газэты, ставіць мэту высьвятліць, *як паўстала БССР і які лёс спаткаў ейных творцаў*, выясьніць праўдзівую гісторыю ў вадрозьненьне ад фальшывай, прапагандовай вэрсіі афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі.

*— Рэдакцыя*

За „айцоў" БССР мы ўважаем беларусаў нацыянал-камуністых, якія, апынуўшыся паза межамі БНР (на савецкім боку лініі фронту), гуртаваліся ў свае нацыянальна-аўтаномныя беларускія сэкцыі РКП(б)[1] і ў Белнацкоме. Яны былі левымі беларускімі патрыётамі, каторыя шчыра верылі, што, апіраючыся на савецкую ўладу ў Расеі й камуністычную дактрыну, можна будзе адрадзіць беларускую дзяржаўнасьць — хутчэй і лепей, чымся на аснове іншых палітычных канцэпцыяў. Як сьведчаць факты й дакуманты, гэта *яны былі ініцыятарамі абвешчаньня БССР і першымі ейнымі будаўнікамі*[2].

## 1

Адсунем стрэлкі гадзіньніка назад і праэкзамінуем гісторыю паўстаньня БССР. Пачнем ад гісторыі Беларускіх сэкцыяў РКП(б) і Белнацкому.

Пачатак *Беларускім сэкцыям РКП(б)* дала левае крыло Петраградзкага (пераважна работніцкага, к.500 усіх сябров) і Гэльсінскага (матроскага Балтыцкага флёту, к.200 усіх сяброў) аддзелаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), каторае, адкалоўшыся ад свае партыі, увосені 1917 г. засноўвае Беларускую СДРП. На чале новае партыі выбіраецца камітэт у складзе был. сябры ЦКБСГ А. Чарвякова, А. Усьціловіча, Сосны, Гурыновіча, Лаўрэцкага, Паляцка й Я. Лагуна[3]. У сьнежані 1917 г. БСДРП высылае дэлегатаў ад свае партыі (А. Чарвякоў[4], Я. Лагун, А. Усьціловіч, У. Скарынка, Сосна[5] й інш.) на 1-шы Ўсебеларускі Кангрэс у Менск[6]. Пасьля 7-га зьезду РСДРП(б) (сакавік 1918 г.), які перайменаваў сваю партыю ў РКП(б), БСДРП перайменоўваецца ў Беларускую сэкцыю РКП(б)[7]. Зь яе ініцыятывы ў верасьні-лістападзе 1918 г. такія-ж сэкцыі паўстаюць у Саратаве й Маскве, а за імі — і ў іншых беларускіх перасяленскіх і ўцякацкіх асяродках Расеі, а таксама й у самой Беларусі (Казань, Тамбоў, Казлоў, Менск, Невель)[8]. Дзеля ўплываў маскоўскай сэкцыі на арганізацыйнае жыцьцё іншых назавем пэрсанальны склад ейнага камітэту, выбранага 24.11. 1918 г.: З. Жылуновіч, П. Клыш, З. Чарнушэвіч, А. Чарвякоў, А. Дзедзя, І. Няцецкі, Я. Дыла, І. Мазур, У. Фальскі[9].

На прапазыцыю БСДРП, 7/20.1.1918 г. у Петраградзе склікаецца нарада прадстаўнікоў левых беларускіх арганізацыяў — БСДРП, Петраградзкага аддзелу БСГ, левых эсэраў і вайсковых групаў Кранштату й Фінляндыі. На гэтай нарадзе выбіраюцца кандыдаты ў г.зв. Беларускі Нацыянальны Камісарыят (Белнацком). У кіруючы склад Белнацкому выбраныя: А.Чарвякоў (БСДРП) — на становішча камісара, У. Скарынка (БСДРП) — ягонага заступніка й З. Жылуновіч (тады яшчэ БСГ) — сакратара. 31.1/13.2.1918 г. Белнацком із прапанаванымі кандыдатамі ў ягоны кіруючы склад зацьвярджаецца дэкрэтам СНК РСФСР як аддзел Народнага Камісарыяту ў нацыянальных справах РСФСР („Камісарыят у беларускіх справах", паводля тэрміналёгіі дэкрэту[10])[11], падобна такім-жа аддзелам (камісарыятам) для іншых народаў (палякоў, летувісаў, армянаў і г.д.), створаным з мэтаю кантралёваньня нацыянальных рухаў нерасейскіх народаў Расеі. Хутка па пераездзе СНК РСФСР і Белнацкому ў Маскву (кан. сакавіка 1918 г.) месца А. Чарвякова, змабілізаванага ў палітаддзел Чырвонай арміі, займаюць сьпярша левы эсэр зь Беларускага Абласнога Камітэту пры Ўсерасейскім Савеце сялянскіх дэпутатаў[12], тады выкліканы із Петраграду А. Усьціловіч, а ад 23.12.1918 г. — З. Жылуновіч[13].

Беларускія сэкцыі РКП(б) і Белнацком сваю актыўнасьць у падрыхтове абвешчаньня БССР (яны мелі ўжо прыклад — УССР, праклямаваную 25.12.1917 г.) разгортваюць у трох кірунках: у кірунку зьбіраньня сваіх сілаў і прапаганды сярод іх ідэі БССР, у кірунку інсьпірацыі падтрымкі ідэі БССР зьнізу й у кірунку плянаваньня абвешчаньня БССР і націску ў гэтай справе на маскоўскі бальшавіцкі цэнтар.

Падобна БСГ і эсэрам, яны, апрача беларускіх работнікаў Петраграду (пуцілаўцаў, абухоўцаў, артылерыйскага заводу й інш.[14]) ды маракоў Балтыцкага флёту, асаблівую ўвагу зварочваюць на сотні тысяч беларускіх уцекачоў 1-ай сусьветнай вайны й іхныя асяродкі ў РСФСР. Каб мець на іх больш уплыў, у сьнежані 1917 г. тады яшчэ як БСДРП рэвалюцыйным парадкам яны ліквідуюць Беларускі ўцякацкі камітэт у Петраградзе (Камітэт Беларускага таварыства арганізацыі дапамогі пацярпелым ад вайны), а, заміж яго, паклікаюць свой у складзе А. Чарвякова, А. Усьціловіча, Я. Лагуна, Сосны, З. Жылуновіча (БСГ)[15]. Ужо ад імя Белнацкому арганізуюць сетку сваіх эмісараў пры беларускіх уцякацкіх асяродках Калугі, Саратава, Тамбова й г.д., а ў Петраградзе й местах занятай РСФСР часткі БНР — у Смаленску, Віцебску, Воршы — закладаюць мясцовыя аддзелы Белнацкому[16].

1.3.1918 г. Белнацком пачаў выдаваць пад рэд. З. Жылуновіча ў Петраградзе (ад №6 — у Маскве) свой прэсавы орган — тыднёвую газэту „Дзяньніца" (ад №40 за 3.12.1918 г. — орган Белнацкому й маскоўскай Беларускай сэкцыі РКП(б)[17], а ад 19.7.1918 г. у Петраградзе пад рэд. А. Вазілы — двумоўны (беларуска-расейскі) часапіс „Чырвоны Шлях" (орган Петраградзкага аддзелу Белнацкому), у якіх сыстэматычна, з розных нагодаў, побач прапаганды супраць БНР, папулярызуецца ідэя БССР (у „Дзяньніцы" ужо ў №8 артыкул — „Беларусь як частка Савецкай Фэдэрацыйнай Рэспублікі"[18]).

У Петраградзе, Маскве й іншых перасяленскіх і ўцякацкіх асяродках РСФСР Белнацком адчыняе свае клюбы, бібліятэкі, школы, творыць розныя палітычныя й культурна-грамадзкія гурткі й таварыствы. Для падрыхтовы кіруючых кадраў арганізуе Вышэйшыя курсы беларусаведы ў Петраградзе, а ў Маскве — Беларускі Народны Унівэрсытэт, дзе для слухачоў (пераважна беларускіх настаўнікаў і культурна-асьветных працаўнікоў) праф. У. Пічэта, праф. З. Анучын, праф. М. Янчук, праф. А. Ясінскі, этнограф У. Дабравольскі, П. Растаргуеў, А. Канчар і інш. чытаюць курсы з геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі й эканомікі Беларусі, беларускай мовы й літаратуры[19]. У кан. 1918 г. Белнацком выдае альманах „Зажынкі" з творамі Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, А. Гаруна, У. Галубка, Х. Чарнышэвіча, а ў тым і сваіх супрацоўнікаў — Ц. Гартнага (З. Жылуновіча), Я. Нёманскага (Пятровіча) і Ф. Шантыра[20].

Падтрымка зьнізу ідэі БССР, інсьпіраваная Беларускімі сэкцыямі РКП(б) і Белнацкомам, выяўлялася галоўна ў прыняцьці адпаведных рэзалюцыяў беларускімі сходамі, канфэрэнцыямі й зьездамі. Рэзалюцыі гэтыя дзеля таго й маюць у розных варыянтах адну й тую-ж схему з трох тэзаў: няпрызнаньня пазафронтавай БНР і яе кіруючых органаў — Рады й Ураду БНР; дэклярацыі ў адданасьці савецкай уладзе й Расеі; супрацьстаўленьня БНР ідэі БССР (фэдэрацыі ці саюзу Беларусі з Расеяй) як спосабу вырашэньня права беларускага народу на нацыянальнае самавызначэньне. Першыя дзьве тэзы вымагаліся ад маскоўскага цэнтру, трэцяя дадавалася ад сябе.

„Адзіны беларускі народ ня можа й не павінен быць падзелены на часткі, ён павінен застацца цэлым; і яму павінна быць дадзена, як і іншым народам, права вызначыць сваю долю", — яшчэ нясьмела заяўляе рэзалюцыя беларусаў уцекачоў з Горадзеншчыны ў Казанскай губ. 23.4.1918 г.[21] „Няхай жыве Беларуская Фэдэрацыйная Савецкая Рэспубліка зь вялікай свабоднай працоўнай Расеяй!" — завяршаецца рэзалюцыя Каралеўскай валасьці Віцебскага пав. 14.5.1918 г.[22]

Такія-ж рэзалюцыі прымае скліканы Белнацкомам у Маскве 17–21.7.1918 г. Усерасейскі зьезд уцекачоў зь Беларусі: „Прэч незалежнасьць, накінутую немцамі з дапамогаю беларускіх паноў! Няхай жыве адзіная вольная работніцка-сялянская Беларусь у цесным братнім саюзе з Расейскай Савецкай Рэспублікай!" (рэзалюцыя ў пытаньні „Бягучы момант")[23] і „...прызнаючы, што Беларусь павінна ўвайсьці ў будучым у склад саюзу свабодных народаў на аснове аўтаномнасьці ў фэдэрацыі з Расейскай Савецкай Рэспублікай, Зьезд вызнае за канечнае, каб на будучай мірнай канфэрэнцыі народаў былі прадстаўнікі ад працоўнага беларускага народу для абароны ягоных інтарэсаў..." (рэзалюцыя ў пытаньні „Аб прадстаўніцтве Беларусі на будучай мірнай канфэрэнцыі народаў")[24].

23–24.8.1918 г. зьініцыятывы Петраградзкага аддзелу Белнацкому ў Петраградзе склікаецца „Першая канфэрэнцыя беларускіх савецкіх арганізацыяў і партыяў", у якой бяруць удзел прадстаўнікі ўсіх лякальных аддзелаў Белнацкому, маракоў Балтыцкага флёту, работнікаў Петраграду й Краншту, петраградзкай Беларускай сэкцыі РКП(б), сацыял-дэмакратаў інтэрнацыяналістых і эсэраў. Па абмеркаваньні дакладаў камісара Петраградзкага аддзелу Белнацкому Я. Лагуна на тэму „Палітычны стан Беларусі" й старшыні Беларускага Абласнога Камітэту пры Ўсерасейскім Савеце сялянскіх дэпутатаў эсэра А. Канчара на тэму „Чым павінна быць Беларусь" канфэрэнцыя „прыйшла да аднадушнае пастановы, што Беларусь павінна быць шырокааўтаномнай дзяржаўнай адзінкай, павінна... увайсьці ў вялікі фэдэрацыйны Расейскі Саюз раўнапраўным сябрам"[25].

Актыўнасьць беларускіх нацыянал-камуністых і іхных прыхільнікаў у кірунку да абвешчаньня БССР ад самага пачатку спаткалася з *маўклівым ці адкрытым супрацівам і няпрыхільнасьцю з боку маскоўскага бальшавіцкага цэнтру й усіх іншых кіруючых органаў РКП(б) і савецкай улады, якія ў нацыянальным пытаньні сталі на пазіцыях расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму.*

19.7.1918 г. група дэлегатаў згадванага зьезду беларускіх уцекачоў у РСФСР на чале з камісарам Белнацкому А. Усьціловічам была прынятая Леніным. Дэлегацыя не пачула ад галавы РСФСР ніякіх запэўненьняў ці хоць-бы абяцанак у справе будучага ўладжаньня Беларусі, над чым так шмат дыскутаваў зьезд[26]. І гэта тымбалей дзіўна, калі ўзяць на ўвагу факт, што група левых эсэраў выступіла на зьезьдзе ў вабарону БНР і ейных кіруючых органаў[27], а зьезд у сваім прывітаньні ЦВК РСФСР „выказаў упэўненасьць, што...(ЦВК) пойдзе насустрач зьезду й дапаможа беларускаму народу ў вырашэньні ягоных надзённых патрэб і абароне ягоных інтарэсаў[28].

4.8.1918 г. беларусы работнікі Пуцілаўскага заводу ў Петраградзе на сваім сходзе прымаюць рэзалюцыю із дамаганьнем перайменаваць Заходнюю вобласьць (куды ўваходзіла Беларусь) у Беларускую й пастанаўляюць пасласць у гэтай справе ў Маскву, у СНК РСФСР, дэлегацыю із двух работнікаў заводу[29]. 13.8.1918 г. беларусы маракі Балтыцкага флёту ў Петраградзе прымаюць у тэй самай справе рэзалюцыю, адрасаваную ў СНК РСФСР. Паводля рэзалюцыі маракоў, „Саветам народных камісараў павінен быць выданы дэкрэт пра ўтварэньне Беларускай вобласьці...цэнтрам якое ў будучыні мусіць стацца Полацак — гэты старажытнейшы асяродак самастойнага дзяржаўнага жыцьця беларускага народу", а „часовым адміністрацыйным цэнтрам — Смаленск"[30]. Амаль аднačасна з гэтай ініцыятывай Белнацком падае ў Наркамнац РСФСР апрацаваны ім канкрэтны „Праект дэкрэту пра ўтварэньне Беларускай вобласьці" як часовай „аўтаномнай палітычнай адзінкі" ў складзе РСФСР і далучае да яго „Тлумачальную запіску". Белнацком просіць дэкрэтам СНК РСФСР зьліквідаваць Заходнюю вобласьць, якая „ў складзе Расейскай Савецкай Рэспублікі цяпер ня творыць нат асобнай вобласьці з нацыянальным назовам, афіцыйна мянуючыся „Заходняй"; ды распусьціць ейныя кіруючыя органы, „паўсталыя пры выпадковых акалічнасьцях із вайсковых арганізацыяў Заходняга фронту бяз удзелу свабоднага волявыяўленьня беларускага народу". Заміж іх, у межах этнаграфічнае карты Беларусі акад. Я. Карскага й „на правох самастойнасьці ў сваім дзяржаўным і палітычна-эканамічным жыцьці" мусіць быць створаная „Беларуская вобласьць". Як такая, падкрэсьліваецца ў „Запісцы", яна павінна існаваць толькі часова, „да скліканьня

Ўсебеларускага Ўстаноўчага Зьезду", каторы (на аснове арт.11 Канстытуцыі РСФСР) канчальна ўжыцьцёвіць права беларускага народу на самавызначэньне, пастанавіўшы пра будучы „дзяржаўны лад і кіраўніцтва Беларускае Нацыянальнае Рэспублікі". Да „Запіскі" былі прыкладзеныя копіі рэзалюцыяў зьезду ўцекачоў, работнікаў Пуцілаўскага заводу й маракоў Кранштату[31].

На ўсе гэтыя рэзалюцыі, праект і тлумачальную запіску, як і на ўсе іншыя справаздачы, інфармацыі й дакладныя запіскі Белнацкому ў Народны Камісарыят нацыянальных справаў РСФСР, ні з боку СНК РСФСР і ягонага старшыні Леніна, ні з боку наркома ў нацыянальных справах Сталіна ня было ніякага рэагаваньня ці адказу (прынамся іх няма ў дасюлешніх публікацыях дакумантаў, у чым Камуністычная партыя СССР была-б зацікаўленая).

Яшчэ большую няпрыхільнасьць да ўсяго беларускага выказваў Смаленскі абласны цэнтар і ягоны кіраўнік — старшыня Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б) і Абласнога Выканаўчага Камітэту (Аблвыкамзаху) А. Мясьнікоў. Тут нат не пажадалі мець аддзелу Белнацкому й у пач. чэрвеня 1918 г. яго зьліквідавалі. Прэсавы орган гэтага цэнтру, газ. „Звьзда" (адным із рэдактароў якое быў А. Мясьнікоў) у вартыкуле „Самавызначэньне народаў і дыктатура пралетарыяту" (№ за 12.6.1918 г.) даў і тэарэтычнае ўгрунтаваньне такой сваёй пазіцыі. У вартыкуле сьцьвярджаецца, што ўсялякае патрабаваньне самавызначэньня народаў у Расеі ў інтарэсе буржуазіі. Адбудова нацыянальных дзяржаваў раней прыгнечаных народаў — зьява рэакцыйная. „Итак: лозунг самоопределения народов мы должны вычеркнуть из программы Советской России"[32]. Калі дэлегацыя Белнацкому на чале із Я. Лагуном прыехала ў Смаленск із прапазыцыяй перайменаваць Заходнюю вобласьць у Беларускую, то „пленум Заходняга Абласнога Камітэту РКП(б)... 13-га верасьня 1918 г. адкінуў прапанову Лагуна й перайменаваў Заходнюю вобласьць у Заходнюю камуну"[33]. Такая пазіцыя Смаленскага цэнтру выклікала ў верасьні-кастрычніку 1918 г. палеміку ў нацыянальным пытаньні паміж газэтамі „Дзяньніца" й „Зьвьзда"[34].

Таксама й Камуністычная партыя Беларусі й Летувы, што нелегальна існавала ў БНР і Летувіскай манархіі, у рэзалюцыі свае 1-ае канфэрэнцыі, скліканай Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РКП(б) у Смаленску 8—11.8.1918 г., клясавае змаганьне супрацьпаставіла нацыянальна-вызвольнаму[35], а ейны 1-шы ўстаноўчы зьезд (1—3.10.1918 г., Вільня) самавызначэньне народаў прызнаў дробна-буржуазным лёзунгам[36].

Тым часам, у канцы верасьня — пачатку лістапада нямецкія войскі выпростваюць лінію фронту й пакідаюць Лепельскі й часткі Сеньненскага й Аршанскага паветаў, Магілёў і Шклоў. 3.11.1918 г. у Нямеччыне выбухае рэвалюцыя, і нямецкі ўрад змушаны адклікаць свае войскі з усходняга фронту, у выніку чаго савецкія войскі пачалі далей пасоўвацца на захад, займаючы тэрыторыю БНР.

Прыход расейскай камуністычнай улады ў Беларусь выклікаў масавыя антысавецкія забурэньні. Ужо ад вясны 1918 г. на землях, што знаходзіліся на савецкім баку, „былі раскрыты і ліквідаваны розныя контррэвалюцыйныя змовы і мяцяжы, арганізаваныя...эсэрамі, меншавікамі, буржуазнымі нацыяналістамі"[37]. Згодна із савецкімі крыніцамі, яны ўзьніклі ў Воршы, Сеньненскім, Віцебскім і Полацкім паветах Віцебскаи і Горацкім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім і Мсьціслаўскім паветах Магілёўскай губэрняў[38]. Найбольшыя зь іх — Аршанскае й Сеньненскае паўстаньні ў жнівені месяцы[39]. „У Воршы... мяцежнікі (да якіх далучыўся вайсковы гарнізон) разагналі мясцовы савет, іншыя савецкія ўстановы і два дні ўтрымлівалі ўладу ў горадзе"[40]. „У Сеньненскім павеце... (паўстанцы) на чале з Закрэўскім і Прышчэпавым[41] часова захапілі ўладу"[42]. На падаўленьне паўстаньня, галоўнай сілай якога быў 2-гі полк 2-ой Смаленскай дывізіі[43], былі кінутыя „атрады Віцебскага губЧК і латыскага палка"[44].

Яшчэ большыя забурэньні ўзьняліся ад маманэту, калі сьледам за адыходам немцаў Чырвоная армія пачала рухацца далей на захад. Тады „па некаторых паветах Заходняй вобласьці працацілася хваля мяцяжоў. (Паўстаўшыя) разганялі выканкомы, нападалі на ваенныя камісарыяты... спрабавалі ўводзіць свае парадкі. Воласьці і паветы, ахопленыя выступленьнямі, аб'яўляліся на ваенным становішчы"[45].

11-га лістапада паўстаў Вяліскі павет. На 7-мы дзень змаганьня, пасьля разьбіцьця 3,000-га паўстанчага злучэньня ў Сямічоўскім лесе пад Вяліжам і коннага паўстанчага аддзелу ў самім Вяліжы, паўстаньне было перамоканае. Паводля прысудаў Выязной тройкі Віцебскага губЧК, Рэўтрыбуналу 15-ай арміі й штабу ЭКО[46], на Пакроўскім полі за Вяліжам колькі дзён і ночаў расстрэльваліся паўстанцы[47]. Калі 10-цігадовага сына аднаго із кіраўнікоў паўстаньня ЧК змусіла капаць магілу для бацькі, бацька, дыякан Ільлінскай царквы ў Вяліжы, Ціхан Абрадзін, спазіраючы на сына й чакаючы расстрэлу, сьпяваў над сваёй магілай пахавальныя песьнясьпевы[48].

27-га лістапада 1918 г. смаленская газэта „Западная Коммуна"[49] паведамляла, што „ад 11 да 17 блізу ўся Віцебская губэрня была ахоплена контррэвалюцыйным паўстаньнем, каторае выбухла ў Вяліскім павеце й перакінулася ў іншыя месцы... У Гарадоцкім павеце паўстаньне ўжо канчальна здушанае. У іншых паветах ліквідуецца"[50]. У паўночнай частцы Полацкага павету (дзе паўстанцы захапілі Расоны) „разазбраеньне працягваецца, адабрана каля 1,500 стрэльбаў"[51].

---

1) Расейская Камуністычная партыя (бальшавікоў), цяпер пераназваная ў КПСС.
2) Тут і ўсюды падкрэсьленьне нашае.
3) Ф. Турук. Белорусское движение, Москва, 1921 г., б.42.
4) М. Краўцоў. 20 гадоў назад — час. „Шлях Моладзі", Вільня, 1938 г., №4/120, б.4.
5) З. Жылуновіч. Беларускія сэкцыі РКП(б) і стварэньне Беларускай Савецкай Рэспублікі — час. „Полымя", Менск, 1928 г., №10, б.77.
6) Турук, б.33.
7) Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя (БелСЭ), Мінск, т.2, 1970 г., бб.229—231.
8) Жылуновіч, б.81; БелСЭ, т.2, б.260.
9) БелСЭ, там-жа.
10) Упяршыню дэкрэт апублікаваны ў „Газете Рабочего и Крестьянского Правительства", №24 за 2/15.2.1918 г.
11) Турук, бб.42—43; Жылуновіч, б.78.
12) В. Круталевич. Организация й деятельность Белорусского национального комиссарията (1918—1919 гг.)" — час. „История СССР", 1963, №6, б.118. Прозьвішча ягонае ні тут, ні ў іншых ведамых публікацыях не называецца.
13) Жылуновіч, бб.79—84,91.
14) Турук, б.42.
15) Там-жа, б.43; БелСЭ, т.2, б.230.
16) Турук, там-жа; БелСЭ, т.2, б.243.
17) Тут із пісьменьнікаў друкуюцца Ц. Гартны, А. Гурло, М. Гарэцкі, пачынаючыя Я. Нёманскі, П. Каравайчык і інш.
18) БелСЭ, т.4, 1971 г., б.221.
19) Турук, б.43; Жылуновіч, б.79; БелСЭ, т.2, бб.242—243.
20) Турук, б.43; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, АН БССР, т.1, Мінск, 1965 г., б.559.
21) Документы й материалы по истории Белоруссии, АН БССР, т.IV, Минск, 1954 г., б.391.
22) Там-жа, б.403.
23) час. „Чырвоны шлях", №3-4 за 25.8.1918 г., б.26.
24) Там-жа, б.28.
25) Там-жа, №5—6 за 13.10.1918 г., б.8.
26) Полымя, 1971 г., №5, б.149 (поўная справаздача спатканьня — у „Дзяньніца", №21 за 26.8. 1918 г.).
27) Круталевич, там-жа, б.122.
28) Полымя, там-жа, б.148.
29) Чырвоны шлях, №3-4 за 25.8.1918 г., бб.25-26.
30) Там-жа, б.25.
31) Там-жа, бб.30—31.
32) В. Круталевіч. Пасля абвяшчэньня рэспублікі — Полымя, 1966 г., №9, бб.129—130.
33) Е. С. Канчер. Белорусский вопрос, Петроград, 1919 г., б.98.
34) В. Круталевіч. На імя Леніна — Полымя, 1965 г., №4, б.104.
35) КП(б)Б у рэзалюцыях (1903—1921 гг.), ч.1, Менск, 1934 г., б.92.
36) Там-жа, б.110.
37) С. Азараў, Н. Каменская. На варце заваёў Кастрычніка — Полымя, 1967,г., №12, б.224.
38) БелСЭ, т.12, 1975 г., б.138; Гісторыя БССР, АН БССР, т.3, Мінск, 1973 г., б.103.
39) БелСЭ, т.10, 1974 г., б.496; Гісторыя БССР, т.3, б.111.
40) Гісторыя БССР, т.3, б.103.
41) Пазьнейшы (у 1925—29 гг.) нарком земляробства БССР.
42) С. Азараў, Н. Каменская, там-жа.
43) Гісторыя БССР, там-жа.
44) С. Азараў, Н. Каменская, там-жа.
45) В. Круталевіч. Ля вытокаў — Полымя, 1969 г., №8, б.167
46) Экспедиционно- карательный отдел.
47) Ю. Віцьбіч. Сорак год таму паўсталі Вяліжане — газ. „Бацькаўшчына", Мюнхэн, 1958 г., №49/50 (436/437).
48) „Со святыми упокой" („Синодик" ахвяраў бальшавізму 1917-22 гг., уложаны ў СССР „для келейного и храмового молитвенного поминовения", экзэмпляр якога ў 1975—76 гг. трапіў на Захад і апублікаваны — „Религия и атеизм в СССР. Ежемесячный обзор", Мюнхен, Октябрь 1976, б.5.
49) №278 (перадрук: Комитеты бедноты Белоруссии. Сборник документов и материалов, АН БССР, Минск, 1958 г., б.146, №119).
50) Там-жа.
51) Там-жа.

# Новыя Весткі аб Камуністычнай Цэнзуры ў Польшчы

Нядаўна на захад прыбыў уцякач з камуністычнай Польшчы, бышы ўрадовец Цэнтральнага Польскага Камітэту Кантролі Прэсы й Выдавецтва. Яму ўдалося вывезьці з сабою шмат дакумэнтаў у справе цэнзуры.

Ніжэй падаюцца кароткія выняткі, узятыя з „рэкамендацыяў" для польскіх цэнзараў:

— „Рэлігійная крытыка розных веравызнаньняў у сацыялістычных краінах не дазваляецца."

— „Друкаваньне неафіцыйных, або нелегальна атрыманых інфармацыяў у справе куплі збожжа за граніцай не пазваляецца."

— „Абсалютна забаронена друкаваць весткі аб прадажы мяса Савецкаму Саюзу."

— „Недазваляецца друкаваць весткі аб магчымасьцях эміграцыі з Польшчы да Амэрыкі й аб тых грамадзянах, якія злажылі заявы да амэрыканскай амбасады аб атрыманьні візы. Усе агалошаньні або паведамленьні, якія выдасьць амэрыканская амбасада ў гэтай справе ня могуць друкавацца."

— „Наступнымі правіламі трэба карыстацца ў справе інфармацыяў аб сьмерці польскіх афіцэраў у Катыні: 1) Усякія спробы абвінавачаньня Масквы не павінны быць прапушчаны цэнзарам. 2) Такія выражэньні, як „растрэляны немцамі ў Катыні," „памерлі ў Катыні," або „загінулі ў Катыні" могуць друкавацца толькі ў навуковых працах."

Цэнзура ў Польшчы, так як і ў цэлай Усходняй Эўропе, кантралюе кожную форму камунікацыі, уключаючы: газэты, кніжкі, радыё, асабістыя агалошаньні, ганаровыя адзначэньні й нават царкоўныя песьні, размножаныя ратапарам, для парафіянаў. Калі цэнзар знойдзе „абразьлівыя" выражэньні ці то ў лісьце да рэдактара, ці ў пасланьні Папы Рымскага, ён мае права зьмяніць іх, або зусім выкінуць з друку.

Зразумела, што ў такой таталітарнай краіне як Польшча, моцная цэнзура патрэбная для ўтрыманьня камуністычнага ўраду Герыка, ня ў меньшым стопні, чымся савецкія танкі.

Прэзыдэнт Джымі Картэр напэўна гэта ведае. Але падчас сваёй візыты ў Польшчу, Картэр вырашыў публічна ігнараваць рэальнасьць цэнзуры, што напэўна задаволіла Герыка, таксама як Картэравы словы што ён і польскі дыктатар „сталіся блізкімі прыяцелямі."

З гэтага ўсяго ёсьць адзін выснаў: калі Палякі прачытаюць словы Картэра ў сваёй прэсе, яны могуць падумаць, што гэта словы не Картэра, а камуністычных цэнзараў.

— National Review, Jan. 1978

# ПЁТРА КРЭЧЭЎСКІ

## 50 ГАДОЎ АД СЬМЕРЦІ ПРЭЗЫДЭНТА РАДЫ Б.Н.Р.

*М. Гарошка*

Пётра Крэчэўскі, Прэзыдэнт РАДЫ БНР памёр у Празе Чэскай 8-га сакавіка 1928-га г. Усё сваё кароткае жыцьцё правёў у змаганьні за лепшую долю свайго народу. Сацыяльна-палітычныя й вызваленьчыя ідэі былі галоўным зьместам ягонага жыцьця.

На долю Крэчэўскага выпала найбольш ганаровая, але й найбольш цяжкая роля, ўтрыманьня незалежніцка-вызваленьчай ідэі за межамі сваёй Бацькаўшчыны.

У 1922-м годзе БНР, на балонках свайго новага часапісу „Беларускі Сьцяг" у нумары першым пісала: „Хоць і на чужыне, хоць і з малымі сіламі, хоць і без адпаведных коштаў, але БНР падыйме „Беларускі Сьцяг" як эмблему нацыянальнай моцы, эмблему еднаньня й веры ў добрую будучыню."

Як відаць, з далучанай ніжэй рэзалюцыі-паведамленьня ў справе Палітычнай Канфэрэнцыі ў Празе 25–30 верасьня 1921 г., БНР патрапіла задзіночыць усе існуючыя, тагды, партыі й арганізацыі пад кіраўніцтвам БНР і яе Прэзыдыума на чале з П. Крэчэўскім.

Апрача гэтага, Крэчэўскаму трэба заўдзячыць, што Рада БНР не занепала, утрымалася й зарганізавала свой новы цэнтар за межамі роднай Беларусі – „Замежную Беларусь". Крэчэўскаму ўдалося атрымаць ад Чэскага Ўраду стыпэндыі, больш як для 200 студэнтаў. З чэскіх высокіх школаў выйшла многа выдатных спэцыялістаў, інжынераў, дактароў навукаў і прафэсароў. Прамаўляючы да студэнтаў, Крэчэўскі казаў: „Веда – гэта найбольш дынамічная сіла ў народзе й наймацнейшая бронь, якая абароніць нас ад ворагаў нашых."

Рамантызм для Крэчэўскага быў аднэй з найважнейшых функцый ягонай палітычнай і нацыянальнай працы. Рамантызм, як ведама, паўстаў як рэакцыя, супраць рацыяналізму й клясыцызму. У палітыцы, рамантыкі хацелі бачыць вольнага й свабоднага чалавека, узгадованага у поўні сваіх традыцый; нацыяналізм рамантыкі ўважалі, як неабходны элемэнт грамадзкага й дзяржаўнага ўзгадаваньня народу.

У бюлетэні БНР, 1926 г., №1, 19 студзеня, Крэчэўскі пісаў: „Рамантызм ідэі творыць рэальнасьць, а не наадварот. Рэальнасьць падпарадкоўвае слабейшых(!), а моцны духам рамантызм змагаецца й накрэсьлівае новыя шляхі будучыні. Не апраўдаўшыя народнага даверу, рэалісты адыйшлі ў старану, ці перайшлі ў варожы стан, а цьвёрды рамантызм ідэі незалежнасьці ці яе дзяржаўных установаў, жывець далей і будзе жыць пака жывець сама ідэя."

І запраўды, яшчэ ніколі ў гісторыі пытаньне свабоды чалавека не ставілася так шырака як у пэрыяд рамантызму. І нашае беларускае пытаньне, першы раз у гісторыі, пасьля 1772–1775 г., хоць і на чужыне, ставіцца на парадак дзенны сусьветнай палітыкі, становіцца пытаньнем міжнацыянальным. Праўда, што нашая ідэя сувэрэннай беларускай дзяржавы не зрэалізавалася, ня сталася цэнтральным пытаньнем на форум Версальскай Дамовы, але яна застаецца й да сяньняшняга дня справай актуальнай на павесцы „не разьвязаных яшчэ пытаньняў."

„Непераможнае жаданьне вытрымаць, не паддацца, а перамагчы павінна быць воляю й абавязкам каждага беларуса," гаварыў П. Крэчэўскі.

### Палітычная Канфэрэнцыя ў Празе 25–30 верасьня 1921 г.

Скліканая Беларускім Нацыянальным Саюзам, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Канфэрэнцыя ў Празе, закончыла сваю працу 30-га верасьня, выносячы шэраг рэзалюцыяў па ўзьнятых канфэрэнцыяй пытаньнях.

На зьезьдзе была асягнута поўная згода на грунце вынесеных рэзалюцыяў адносна задзіночаньня ўсех нацыянальна-палітычных сілаў навокал Краду БНР для дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі.

На Канфэрэнцыю ў Прагу прыбылі прадстаўнікі ад нацыянальных і палітычных арганізацыяў з пад усіх акупацыяў Беларусі. Усяго было 37 дэлегатаў. На Канфэрэнцыі прысутнічалі наступныя партыі: Беларуская Партыя Сацыялістаў- Рэвалюцыянераў – 18, Беларуская Партыя Сацыялістаў-Федэралістаў – 6, Народных Сацыялістаў – 5, Сацыял-Дэмакратаў – 3, Безпартыйных – 5, Дэлегаты прывезьлі мандаты ад 42-х Беларускіх нацыянальных і палітычных арганізацыяў.

### Паведамленьне Прэзыдыуму Беларуска–Нацыянальнай Палітычнай Канфэрэнцыі ў Празе

Прэзыдыум Беларуска-Нацыянальнай Канфэрэнцыі ў Празе на падставе рэзалюцыяў, якія выказалі волю ўсіх беларускіх партыяў і арганізацыяў, аб'вешчае, што адзіным правамоцным законадаўчым органам на тэрыторыі Беларусі ёсьць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі й яе Прэзыдыум на чале з П. Крэчэўскім.

---

### ЗАПРОСІНЫ

У нядзелю, 12-га сакавіка сёлета, Сястрыцтва Парафіі Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне арганізуе абед (бліны), з нагоды сырапуснай нядзелі (перадвялікапоснай), на які, мае гонар, прасіць усех беларусаў ды іхных знаёмых. Абед распачнецца адразу па заканчэньні Божай Службы, якую ачоліць Прат. а. Васіль у саслужэньні а. Расьціслава.

*Прат. Васіль Кэндыш*
*А. Др. Расьціслаў Войтэнка*
*Сястрыцтва Парафіі*

### RECENT BOOKS

**A HISTORY OF BYELORUSSIAN LITERATURE FROM ITS ORIGINS TO THE PRESENT**
**By Arnold B. McMillin**

Volume 6 of *Bausteine zur Geschichte der Literatur bei den Slawen* (Foundations of the History of Slavic Literature) edited by Hans-Bernd Harder and Hans Rothe. W. Schmitz Verlag, Gissen, 1977, 447 pp.

A history of Byelorussian literature from the 12-th century to the present by a well known Slavicist, Prof. Arnold B. McMillin of the University of Liverpool. Although the eight century time span covered by the work is compressed to 447 pages, it is hoped that the book will help fill the need of the English reader's interest in the neglected study of Byelorussian literature in the West.

# „Мая Карэспандэнцыя з Чытачамі й Крытыкамі"

Зьмешчамы ніжэй ліст св. памяці Др. Янкі Станкевіча, ўзяты з артыкулу „Мая Карэспандэнцыя з Чытачамі й Крытыкамі" вядомага пісьменьніка Ўладзімера Глыбіннага.

– *Рэдакцыя*

„Дарагі Доктар!

З кнігай Вашэцявай, каб яе запакаваць і занесьці здаць на пошту, я страціў ня меньш гадзіны. Палічы, Ваша, колькі гэта я страціў подле таго, што сам зарабляеш і дадай кошт пошты.

Кніга Вашэцява можа й каштоўная, але мне ані непатрэбная. Ня маеш, Ваша, сумленьня забіраць у мяне час, у людзіны хоць ужо сем год не зарабляючай, але цяжка шточасна працуючай дзеля свайго народу. Я ня маю магчымасьці купляць найпатрабнейшых сабе кнігаў у сваёй адумысловасьці."

Я колькі разоў перачытываў гэтыя словы звароту й кажны раз адчуваў асаблівае задаваленьне. Яно мне прыносіць асалоду як узор самабытнае арыгінальнае мовы, дарма, што ейным носьбітам у чыстым выглядзе зьяўляецца магчыма адзінкавы чалавек у эміграцыі. Гэтая моўная жамчужына прыгадвае мне пэрлы старабеларускай гаворкі, на якой некалі скрозь гаварыла шляхта й баярства, і ўзоры якой захаваліся ў некаторых дакумэнтах старадаўных дзяржаўных актаў і ў літаратуры 16–18 вякоў. А ў дзяцінстве мне пашэнціла было чуць нешта падобнае ад старога гаспадара дому, у якім мы жылі ў Менску. Нам, больш-меньш зрусыфікаваным параўнаўча з ім, ягоная мова тады выдавалася дзіўнай і нават сьмешнай. Адно цяпер, на захадзе жыцьця свайго, мы ў думках вяртаемся да чутага ў дзяцінстве й пачынаем інача й цаніць. Такім зьняважаным многімі няпрыхільнікамі, але ўпорыстым і наважаным жыве й дзеіць сярод нас носьбіт гэтае багатае адменамі й апрычонымі асаблівасьцямі, нацыянальным калярытам мовы. Дарма, што ня ўсё ў ёй надаецца да перайманьня, але пры крытычным падыходзе многія выразы, звароты й лексыка гэтак і просяцца да перайманьня пісьменьнікамі й увядзеньня іх у мастацкія творы, як і ў штодзённую гаворку, каб зрабіць яе больш нацыянальна-самабытнай і каляровай, непадобнай да мовы нашых суседзяў.

– *Уладзімер Глыбінны*

# На Ўкраінскім Сьвяце ў Дэтроіце

У нядзелю, 22 студзеня 1978 году, Украінцы мэтраполіі Дэтройту адзначылі сьвяточнай акадэміяй 60-годзьдзе Украінскай Нацыянальнай Рэвалюцыі й аднаўленьня сваёй дзяржавы.

Традыцыйна, як штогоду, беларуская дэлегацыя ўшанавала сваёю прысутнасьцяй гэтую слаўную урачыстасьць.

Цікава аднак, што ў гэтым годзе толькі беларускі прадстаўнік быў прывітаны на Акадэміі й ніхто больш з суседніх, ці паняволяных народаў.

Найбольшай атракцыяй на гэтай Акадэміі, была прысутнасьць і прамова чатырох-зоркавага гэнэрала Сэма Яскілкі, заступніка камандзера амэрыканскай марской пяхоты (U.S. Marine Corp.), з паходжаньня Украінца, а таксама вельмі зьмястоўная й цікавая прамова Міколы Плавюка, Заступніка Прэзыдэнта СКВУ.

Прысутны Камандзер Беларускіх Вэтэранаў на чужыне, Гэнэрал Др. Ю. Сажыц, пазнаёміўся з Гэнэралам Яскілкам, злажыў яму камплімэнт за вельмі шчырую, простую й цікавую жаўнерскую прамову, а таксама выказаў задаваленьне ад Беларусаў, што з братняга нам украінскага народу, вышаў вялікі камандзер і герой З.Ш.А.

# Лісты да Рэдакцыі

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Не адмоўце зьмясьціць на балонках газэты *ЧАС* наступнае:

Кангрэс БАЗА, калі яго наагул можна назваць Кангрэсам, што адбыўся 3-га верасьня 1977 году ў Клывэлэнд, пакінуў па сабе вельмі дрэннае ўражаньне. У сувязі з гэтым, лічу патрэбным, выказаць свае думкі аб гэтым „Кангрэсе".

Кангрэс, як нам ведама, склікаецца раз на два гады для вырашэньня й прыняцьця найважнейшых арганізацыйных і фінансавых справаў, уключаючы сюды й бюджэт газэты *Беларус* і многа іншых. Гэткія з'езды называюцца дэлегацкімі або Кангрэсамі. Кангрэс выбірае новую Галоўную Управу, уносіць да разгляду новыя праекты, калі яны не пярэчаць статуту й канстытуцыі Арганізацыі, а калі пярэчаць законам БАЗА, то ўсё роўна, хоць і прынятыя Кангрэсам, то гэткія пастановы ня маюць праўнага абаснаваньня.

Апошні, 17-ы Кангрэс, трэба сказаць, што гэта быў Кангрэс без дэлегатаў, а *без дэлегатаў ня можа быць выбараў і ня можа быць перавыбараў.*

Інж. Я. Бруцкі

Dear Dr. Horoshko:

I enjoy reading "The Byelorussian Times" because it provides me with Byelorussian news events, Byelorussian history and culture, of which we all should be very proud of.

So that I could continue to receive this wonderful and interesting paper, I have enclosed my new address and a check for my subscription.

Thank you all who have made this paper "The Byelorussian Times" possible.

Sincerely yours,
Eugene Kazan